Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 16 сакавіка 1999 г. № 28 (559) Кошт свабодны

## Савет Еўропы за палітычнае вырашэнне крызісу

**Старшыня камітэта міністраў, прэзідэнт Парламенцкай асамблеі і Генеральны сакратар Савета Еўропы зрабілі заяву па сітуацыі ў Беларусі.**

Кіраўніцтва гэтай уплывовай еўрапейскай структуры занепакоенае *«ўзмацненнем палітычнай напружанасці ў Беларусі, а таксама станам здароўя і фізічнай бяспекі»* некаторых членаў апазіцыі. Апошнія падзеі ў Мінску, гаворыцца ў заяве, *«яшчэ раз пацвердзілі той факт, што канстытуцыйныя супярэчнасці, якія бяруць пачатак з восені 1996 года, з'яўляюцца палітычнай, а не прававой праблемай»*. Кіраўніцтва Савета Еўропы падкрэслівае, што гэтая праблема *«павінна вырашацца шляхам палітычнага працэсу, адкрытага для ўсіх, уключаючы апанентаў канстытуцыі 1996 года»*.

Савет Еўропы прапануе беларускім уладам неадкладна стварыць умовы для дыялогу і звяртае ўвагу на асноўныя каштоўнасці еўрапейскіх дэмакратыяў — свабоду сходаў і асацыяцыяў, свабоду слова, захаванне правоў чалавека, акрэсленых адпаведнай еўрапейскай канвенцыяй. Як гаворыцца ў заяве, *«усе палітычныя сілы ў Беларусі павінны знайсці канструктыўны падыход, каб дасягнуць згоды па праблемах, якія маюць жыццёва важнае значэнне для еўрапейскай будучыні Беларусі»*.

**А. Д.**

## Вік сустрэўся з Ганчаром

**Учора кіраўнік кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ пасол Ханс-Георг Вік сустрэўся са старшынёй Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Віктарам Ганчаром.**

Сустрэча адбылася на кватэры В.Ганчара, які праходзіць рэабілітацыю пасля 10-дзённай галадоўкі. Напярэдадні спадар Ханс-Георг Вік заявіў журналістам, што ў выпадку, калі інфармацыя пра жорсткія метады абыходжання праваахоўных органаў са старшынёй ЦВК Віктарам Ганчаром падчас адміністрацыйнага арышту пацвердзіцца, гэта будзе *«паказчыкам пагаршэння палітычнага клімату і адсутнасці вяршэнства закона ў гэтай краіне»*.

На думку апазіцыі, місія АБСЕ ў Мінску неадэкватна рэагавала на падзеі вакол ЦВК і яе старшыні В.Ганчара. Па словах спадара Віка, задача АБСЕ заключаецца ў пошуку мірнага вырашэння канфлікту. *«У канчатковым выніку павінен адбыцца дыялог, які прывядзе да канстытуцыйнага кансенсусу»*, — сказаў спадар Вік.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Беларусь мяжуе з NATO

**У мінулую пятніцу у склад NATO афіцыйна увайшлі тры новыя краіны — Польшча, Венгрыя і Чэхія.**

Урачыстая цырымонія падпісання дамовы аб пашырэнні *NATO* адбылася ў Індэпендэнс, штат Місуры (ЗША), у памяшканні Трумэнаўскай бібліятэкі. У ёй удзельнічалі дзяржсакратар ЗША Мадлен Олбрайт — ад імя краінаў, што ўваходзяць у *NATO*, а таксама міністры замежных справаў Браніслаў Герэмек (Польшча), Янаш Мартоні (Венгрыя) і Ян Каван (Чэхія).

*(Працяг на стар.2)*

## Міністр спорту стаў мільярдэрам

**Завяршылася судовае разбіральніцтва па іску міністра спорту і турызму, віцэ-прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі Мікалая Ананьева да рэдакцыі «Белорусской деловой газеты».**

М.Ананьеў падаў у суд Кастрычніцкага раёна Мінска заяву аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі пасля публікацыі матэрыялу Д.Машары «Як становяцца міністрамі. Чаму разгарнулася барацьба за пост міністра спорту?» Суд задаволіў іск міністра спорту і вынес рашэнне спагнаць з газеты на карысць міністра 1 мільярд рублёў, а асабіста з журналіста Д.Машары — сто мільёнаў рублёў. Апрача гэтага, суд абавязаў газету ў дзесяцідзённы тэрмін надрукаваць абвяржэнне прыведзеных у артыкуле фактаў.

*БелПАН*

## Літоўцы адчыняць консульства

**У Гродне збіралася Рада Еўрарэгіёна «Нёман», у рамках якога супрацоўнічаюць беларусы, палякі і літоўцы.**

Супрацоўніцтва па-ранейшаму засталося на «папяровым» узроўні. Адзінае, што літоўскі пасол у Беларусі сп.Паслаўскас паведаміў аб рашэнні літоўскага ўрада адчыніць у Гродне сваё консульства.

Паседжанне адбылося ў дзень далучэння Польшчы да *NATO*. Польскі пасол у Беларусі М.Машкевіч сказаў журналістам, што вяртання «жалезнай заслоны» не прадбачыцца. У мерапрыемстве ўдзельнічала ваявода новага Падляшскага (раней — Беластоцкага) ваяводства Крыстына Лукашук, а таксама віцэ-губернатар Калінінградскай вобласці Т.Кузяева — у якасці назіральніка.

У канцы гасцей завезлі ў Новы замак, каб паказаць выставу фатаграфіяў з міжнароднага фотапленэра, які адбыўся на Аўгустоўскім канале, што злучае беларускую тэрыторыю з польскай.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Нашай Канстытуцыі 5 гадоў

**14 сакавіка ў Мінску адбыліся шэсце і мітынг, прысвечаныя пятым угодкам прыняцця Канстытуцыі Беларусі.**

Акцыю арганізавала Сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) пры падтрымцы Аб'яднанай грамадзянскай партыі. У ёй узялі ўдзел каля трох тысяч чалавек, у тым ліку дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Дэманстранты прайшлі з плошчы Я.Коласа да плошчы Парыжскай Камуны, скандзіруючы лозунгі «Жыве Беларусь!», «Незалежнасць!», «Лукашэнку — у адстаўку!».

Па словах Сямёна Шарэцкага, які выступіў на мітынгу, *«створаны ў Беларусі дыктатарскі рэжым з дапамогай варожых маскоўскіх вятроў знішчыў слабыя ўсходы дэмакратыі»* і *«справа дайшла да гандлю самым святым — суверэнітэтам беларускай дзяржавы»*. Аднак ужо няма сілы, здольнай адабраць у беларускага народа канстытуцыйнае права выбіраць кіраўніка краіны кожныя пяць гадоў. Сённяшняй апорай Лукашэнкі з'яўляюцца былыя кіраўнікі краіны, якія засталіся ў сваім духоўным развіцці на ўзроўні *«пустазелля і цялячых хвастоў»*. *«Адчуўшы свой канец, рэжым можа пайсці на яшчэ большую лютасць, але гэта яго не выратуе»*, — заявіў спікер.

Па словах прадстаўніка БНФ Лявона Баршчэўскага, сёння трэба не гаварыць пра Канстытуцыю, а *«ісці і выконваць яе: браць лісты і збіраць подпісы за кандыдатаў у прэзідэнты краіны»*. *«Подпіс, пастаўлены за кандыдатаў на гэтых выбарах, ёсць подпіс за Канстытуцыю 1994 года»*, — сказаў Л.Баршчэўскі.

Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой запатрабавалі ад уладаў прытрымлівацца пастановы Вярхоўнага Савета аб правядзенні 16 траўня гэтага года прэзідэнцкіх выбараў, спыніць праслед старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах Віктара Ганчара і іншых актывістаў выбарчай кампаніі. Апрача таго, яны нагадалі чыноўнікам, якія працуюць у органах дзяржкіравання, прэзідэнцкай «вертыкалі» і ў сілавых структурах, аб непазбежнай адказнасці за парушэнне Канстытуцыі.

*БелаПАН*




*Мітынг у нядзелю з нагоды Дня Канстытуцыі-94.*

# Прэзідэнт «чысціць» землякоў

**Аляксандр Лукашэнка наладзіў у мінулы чацвер публічную экзекуцыю прадстаўнікам свайго дзяржапарату з Магілёўскай вобласці. У выніку прэзідэнцкай разборкі з пасады быў зняты губернатар Магілёўшчыны Аляксандр Кулічкоў, а кіраўніка Мсціслаўскага райвыканкама Сяргея Дзямідзенку і некалькіх яго падначаленых арыштавалі.**

Выступаючы на нарадзе ў сваёй адміністрацыі, Лукашэнка паведаміў, што яму сталі вядомыя факты крымінальнай дзейнасці мсціслаўскіх «вертыкальшчыкаў». Так, супрацоўнікі Савета бяспекі, якія праводзілі праверку ў Мсціславе, высветлілі, што шэф раённай адміністрацыі С.Дзямідзенка захоўваў у сваім доме вялікі арсенал зброі. У Дзямідзенкі пры вобыску знайшлі пісталет Макарава, газавы пісталет, карабін, паляўнічую стрэльбу і некалькі дзесяткаў патронаў. Падобны арсенал быў знойдзены і ў папярэдніка Дзямідзенкі на пасадзе старшыні райвыканкама. А старшыню калгаса «Савецкая Беларусь» Гарбатага арыштавалі за незаконны вываз у Расію мяса і іншых прадуктаў. Абураны Лукашэнка заявіў, што інфармацыя аб злачынствах у Мсціславе доўгі час не даходзіла да яго з-за супрацьдзеяння кіраўніка Магілёўскай вобласці Кулічкова, які «пакрываў жулікаў». (Аляксандр Кулічкоў з'яўляецца кумам арыштаванага Дзямідзенкі).

НАВІНЫ яшчэ ў лістападзе мінулага года пісалі аб крымінальных прыгодах сына галоўнага мсціслаўскага вертыкальшчыка. Нагадаю, што Дзямідзенка-малодшы (дарэчы, кіраўнік мясцовай ячэйкі БПСМ) неяк папрасіў аднаго мясцовага крымінальніка «разабрацца» з мсціслаўскім рабочым Сяргеем Сураўцавым, які выканаў для Дзямідзенкі работу, але належныя грошы за яе так і не атрымаў. Бандыт падпільнаваў і так моцна збіў рабочага, што ён некалькі месяцаў ляжаў у шпіталі. Сын мсціслаўскага кіраўніка быў тады арыштаваны, але хутка выйшаў на волю дзякуючы ўмяшальніцтву губернатара Кулічкова.

На нарадзе прэзідэнт заявіў, што здымае магілёўскага губернатара з пасады, паколькі той «не апраўдаў даверу і падвёў прэзідэнта ў яго роднай Магілёўшчыне». Пасля гэтых словаў Лукашэнкі прэзідэнцкай ахоўнік ледзь не за шкірку выкінуў спалоханага і разгубленага Кулічкова за дзверы. Вось такая падзяка кіраўніка дзяржавы чыноўніку, які амаль пяць гадоў верай і праўдай яму служыў. У гэты ж дзень на месца Кулічкова быў прызначаны 48-гадовы Міхаіл Дражын, які раней працаваў намеснікам старшыні Мінскага аблвыканкама.

Не выключана, што прэзідэнцкія разборкі з мсціслаўскімі і магілёўскімі чыноўнікамі з'яўляюцца толькі часткай прапагандысцкай кампаніі па чыстцы дзяржапарату «ад карупцыянераў і хабарнікаў».

За гады прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі «яго родная Магілёўшчына» атрымлівала з дзяржбюджэту нашмат больш грошай, чым іншыя беларускія рэгіёны. Бо «магілёўцаў» ва ўрадзе і прэзідэнцкай адміністрацыі значна болей, чым прадстаўнікоў іншых абласцей. Вынік жа такой падтрымкі амаль нулявы — Магілёўшчына так і засталася самым неразвітым і адсталым рэгіёнам краіны. Аднак выдатакваныя бюджэтныя грошы спрытныя чыноўнікі ўсё ж такі «асвоілі» і, відаць, далёка не ў інтарэсах гаспадаркі вобласці. За што і папляціліся.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Выбухі на рэках

**Міністэрства абароны стварыла каля сарака спецыяльных групаў, якія будуць падрываць лёд на рэках. Некаторыя з іх ужо пачалі сваю працу.**

На мінулым тыдні выбухі чуліся на рацэ Нёман у Стаўбцоўскім і Карэліцкім раёнах. Каля вёскі Новы Свержань, дзе па прычыне лядовага затору на Нёмане падтапіла каля 15 дамоў, за два дні было зроблена каля 50 выбухаў. Як паведамілі ў Мінскім абласным штабе грамадзянскай абароны, рэчышча ракі цяпер ачышчана, і вада плыве свабодна. Падрыўнікі збіраюцца папрацаваць і на Заходняй Дзвіне.

У Брэсцкай вобласці падрыўнікі пакуль не спатрэбіліся, аднак Пінскі, Драгічынскі, Івацэвіцкі, Лунінецкі і Столінскі раёны, якім найбольш пагражаюць наступствы паводкі, знаходзяцца пад асаблівым кантролем. Рака Гарынь ужо затапіла значную частку Столінскага раёна. Узровень вады расце на рэках Прыпяць і Піна. Усяго на Брэстчыне падтапленні ёсць у 81 населеным пункце, вада вышэй узроўню падлогі паднялася ў 135 хатах. У больш бяспечныя мясцовасці адселеныя каля 40 чалавек. У мінулыя выхадныя з-за вялікай колькасці вады на возеры Белым у Драгічынскім раёне прарвала дамбу. Вада паплыла непадалёк ад вёсак Сварынь і Малінаўка. Па словах начальніка драгічынскага штаба грамадзянскай абароны, на працягу сутак больш за 150 чалавек ліквідавалі прарыў на дамбе, для чаго насыпалі пяском паўтары тысячы мяшкоў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## У Кіеве сустрэлі пікетам

**У пятніцу каля 70 прадстаўнікоў «правых» рухаў Украіны пікетавалі беларускае пасольства ў Кіеве з нагоды візіту прэзідэнта Лукашэнкі.**

Пікетоўшчыкі трымалі транспаранты з лозунгамі «Чамадан, вакзал, Расія», «Лукашэнку — да суда!» і іншымі. Аналагічную акцыю «правыя» правялі ля будынка адміністрацыі прэзідэнта ў Кіеве.

**М.В.**

# Бітва за Пазьняка

**Ужо некалькі дзесяткаў тысяч подпісаў сабралі 2.730 сяброў ініцыятыўнай групы за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Зянона Пазьняка.**

*«Нягледзячы на ціск з боку ўладаў, справа ідзе, мы ўпэўненыя, што да 25 сакавіка неабходныя 100 тысяч подпісаў збярэм»,* — заявіў кіраўнік ініцыятыўнай групы ў падтрымку Пазьняка, намеснік старшыні БНФ Сяргей Папкоў. У панядзелак на прэс-канферэнцыі сп.Папкоў распавёў журналістам аб тым, як праходзіць перадвыбарчая кампанія.

Паводле Сяргея Папкова, удзел БНФ у гэтай кампаніі ні ў якім разе не азначае адступлення ад прынцыпаў, якія былі заяўленыя раней. Каманду Міхаіла Чыгіра фронтаўцы і зараз называюць «прарасійскай», а вылучэнне былога прэм'ера ў прэзідэнты падаецца ім «маскоўскім праектам з мэтай узяць пад кантроль усю апазіцыю». Чаму ж Фронт удзельнічае ў гэтай «гульні»?

*«Наша мэта — каб Беларусь мела ўрад, які клапоціцца аб яе інтарэсах, а не гандлюе імі. А прыйсці да ўлады інакш як праз выбары немагчыма, вось мы і ўдзельнічаем у перадвыбарчай кампаніі, якая праходзіць у межах Канстытуцыі 1994 г.»,* — сказаў Сяргей Папкоў. Паводле іншых словаў, адначасова Фронт збірае заявы аб грамадзянстве БНР і стварае ўмовы для будучага двоеўладдзя. *«Мы думаем не толькі пра прэзідэнцкія выбары, а глядзім далей.Назапашвецца моц, з якой рэжыму прыйдзецца лічыцца»,* — заяўляе намеснік кіраўніка БНФ.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Еўрапейцы не хочуць у лукашэнкаўскі дом

**Парламенты шэрагу еўрапейскіх дзяржаваў адмовіліся накіраваць свае афіцыйныя дэлегацыі ў Мінск на міжнародную канферэнцыю «Еўропа без размеркавальных лініяў — наш агульны дом».**

Пра гэта паведаміў старшыня аргкамітэта спікер верхняй палаты Павел Шыпук. У прыватнасці, такое рашэнне прынялі парламенты Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі і Вялікабрытаніі, якія не прызнаюць легітымным прэзідэнцкі «парламент» у Беларусі. Затое на канферэнцыі намерваецца выступіць прэзідэнт Лукашэнка. Па словах П.Шыпука, гэтая імпрэза будзе аплачаная з бюджэту Парламенцкага сходу саюза Беларусі і Расіі, з беларускага бюджэту, пры фінансавай падтрымцы бізнесовых структураў нашай краіны.

**М.В.**

# Арыентацыя на БССР

**Прэзідэнцкая адміністрацыя распаўсюджвае чарговую інструкцыю па «прамыванні» мазгоў насельніцтва.**

Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі распрацавала на год наперад спецыяльны план гутарак з народам на такія важныя тэмы, як «80 гадоў БССР», «Беларусь і Расія: ад саюза да адзінай дзяржавы», «Кастрычніцкая рэвалюцыя — шлях да прагрэсу».

Да плана прыкладаецца «Арыенціроўка для груп выступаючых перад насельніцтвам». Дзяржаўныя ідэолагі настойліва раяць сваім прапагандыстам віншаваць людзей з усімі святамі, якія толькі ёсць у краіне. «І кожную падзею выкарыстоўваць, каб падкрэсліваць станоўчых тэндэнцыі ў эканамічным і палітычным развіцці дзяржавы». Агітатары ад вертыкалі павінны ўнушаць электарату, што мясцовыя выбары «дазволяць прыцягнуць найбольш дзеяздольных і ініцыятыўных прадстаўнікоў народа».

Узгадваюцца ранейшыя часы, калі ў СССР была «самая дэмакратычная канстытуцыя ў свеце». Згодна з арыенціроўкай прапагандысты абавязаныя пераконваць людзей, што «упершыню выбаркамы незалежныя ад дзяржаўнай улады», а «выбары стануць усенародным аглядам Саветаў».

Аўтары гэтага дакумента сцвярджаюць, што «эканамічныя пераўтварэнні адчуваюць магчымасці для падвышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, вынікі якога ўжо пачынаюць адчувацца». Як лічаць прэзідэнцкія ідэолагі, такая агітацыя — дзейсны сродак, каб «згуртаваць» народ і «мабілізаваць» ягоныя сілы...

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Каратчэня зноў кіруе СНД

Навіна аб адстаўцы Барыса Беразоўскага з пасады выканаўчага сакратара СНД грымнула нібы маланка ў ясны дзень і нарадзіла шмат пытанняў. Карэспандэнт НАВІНАЎ задаў іх новаму (а фактычна былому) кіраўніку выканаўчага сакратарыята Івану КАРАТЧЭНІ.

**— Спадар Каратчэня, чым, на Ваш погляд, тлумачыцца адстаўка Вашага былога шэфа?**

— Мяркую, Барыс Беразоўскі пачаў надаваць зашмат увагі ўнутранай палітыцы Расіі, а яна там вельмі складаная.

**— Хто зараз кіруе штаб-кватэрай СНД — зноў Вы?**

— Так, вось ужо другі тыдзень. Гэта адбылося па прапанове прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, які рэкамендаваў прызначыць мяне выконваючым абавязкі выканаўчага сакратара.

**— Але для адхілення Беразоўскага патрэбная згода ўсіх кіраўнікоў краінаў СНД. Ці вядома Вам дакладна, што яны далі «дабро»?**

— Па маіх звестках, адразу пасля з'яўлення ўказа адносна Беразоўскага прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын меў на гэтую тэму тэлефонныя размовы з сваімі калегамі-прэзідэнтамі. Да таго ж праз расійскі МЗС разасланы адпаведныя прапановы. Мне вядома, што ўсе прэзідэнты пагадзіліся з прапановай Барыса Мікалаевіча.

**— Вы лічыце, што гэтага дастаткова, каб зняць Вашага былога шэфа?**

— Я лічу, што дастаткова было б і рашэння аднаго з прэзідэнтаў. Як кіраваць выканаўчымі структурамі СНД, калі супраць цябе кіраўнік хаця б адной з краінаў?



**— Ці праўда, што ў выніку Беразоўскі сам падаў у адстаўку, як ужо сцвярджаюць расійскія СМІ?**

— Мы тут такіх звестак не маем. Чулі толькі, быццам бы ён падаў заяву аб адпачынку, але дакумента не бачылі.

**— Як Вы падтрымліваеце асабістыя кантакты з Барысам Абрамавічам?**

— Ніяк. Ён цяпер у Амерыцы, і мы не кантактуем. Адразу пасля ўказа Ельцына была тэлефонная размова. Беразоўскі сказаў: вы ведаеце што рабіць, працуйце, а я буду разбірацца са сваімі справамі.

**— Ці праўда, што пасля адстаўкі Беразоўскага ягоны план рэфармавання СНД таксама будзе рэфармаваны?**

— Не спяшайцеся з высновамі. Мы цяпер працуем над тым, каб правесці сустрэчу лідэраў краінаў СНД 2 красавіка. Вось напярэдадні і паведамім журналістам, што і як рэфармаваць.

**— Дайшлі звесткі, што частка супрацоўнікаў Вашай арганізацыі адпраўленая ў неаплачваемы адпачынак.**

— Сапраўды, 20 працэнтаў супрацоўнікаў мінскай штаб-кватэры адпачываюць за свой кошт. У нас няма грошай. Большасць дзяржаваў СНД не фінансуе дзейнасць органаў Садружнасці, некаторыя за ўвесь час не далі ні капейкі. На будучым саміце прэзідэнтаў я абавязкова ўзніму гэтае пытанне. Калі грошы ў самы бліжэйшы час не з'явяцца, наш сакратарыят можа проста спыніць сваё існаванне.

*Гутарыў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Беларусь мяжуе з NATO

Польшча, Венгрыя і Чэхія калісьці ўваходзілі ў склад сумнавядомай Арганізацыі Варшаўскай дамовы — ваеннага блока сацыялістычнага лагера на чале з СССР, які быў закліканы супрацьстаяць *NATO*.

*«Гэта найбольш важны момант ва ўсёй нашай гісторыі, ён азначае знікненне межаў ва ўсёй Еўропе»,* — так пракаментаваў пашырэнне *NATO* на Усход польскі прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі.

Як сёння выглядаюць арміі усходнееўрапейскіх краінаў, што ўвайшлі ў *NATO*? Паводле інфармацыі агенцтва *Associated Press*, самая вялікая армія — гэта польская. У ёй нясуць службу 235 тысяч салдат і афіцэраў. На ўзбраенні арміі стаяць 1.729 танкаў, 1.442 баявыя машыны пяхоты, 94 баявыя верталёты, тры падводныя лодкі і больш як 200 баявых самалётаў.

Чэхі маюць 63 тысячы вайскоўцаў, 938 танкаў, 1360 БМП, 115 баявых самалётаў, 34 баявыя верталёты. У Чэхіі прыкладна аднолькавая колькасць насельніцтва з Беларуссю, але у беларускай арміі служаць 83 тысячы чалавек, на ўзбраенні беларусаў — 1.778 танкаў, 2.513 БМП, 252 баявыя самалёты, 62 ударныя верталёты, удвая больш артылерыі, чым у чэхаў.

Для таго, каб поўнасцю адпавядаць патрабаванням *NATO*, вялікую колькасць баявой тэхнікі давядзецца замяніць — а гэта дадатковыя грошы на абарону. Праўда, больш «сталыя» калегі па альянсе абяцаюць дапамагчы ў рэфармаванні усходнееўрапейскіх арміяў.

Нагадаем, што Паўночнаатлантычны альянс быў утвораны роўна 50 гадоў таму — 4 красавіка 1949 года. Адным з ініцыятараў стварэння *NATO* быў прэзідэнт ЗША Гары Трумэн. Менавіта, каб адзначыць выдатную ролю амерыканскага прэзідэнта, сёлетняя ўрачыстасць была праведзеная ў Індэпендэнс — родным горадзе Г.Трумэна.

Напачатку ў *NATO* ўваходзіла 12 краінаў. Сёння ў альянсе ўжо 19 членаў — Бельгія, Вялікабрытанія, Германія, Грэцыя, Данія, ЗША, Ісландыя, Іспанія, Італія, Канада, Люксембург, Нарвегія, Нідэрланды, Партугалія, Турцыя і Францыя і тры ўжо згаданыя краіны-навічкі.

Калі *NATO* ствараласяя, галоўнай яго мэтай было спыніць «камуністычную пагрозу», не дапусціць узнікнення камуністычных рэжымаў на Захадзе. Цяпер жа альянс перш за ўсё разглядаецца як эфектыўная сістэма калектыўнай бяспекі Еўропы. Як вядома, натаўскія самалёты чатыры гады таму дапамаглі спыніць вайну ў Босніі, а цяпер 28-тысячны вайсковы кантынгент *NATO* рыхтуецца ўвайсці ў Косава для забеспячэння міру. Апроч таго, варта ўзгадаць пра складаныя дачыненні паміж Грэцыяй і Турцыяй — хто ведае, чым бы скончыліся дробныя сутычкі паміж імі, калі б абедзве краіны не ўваходзілі ў *NATO*?



*Падчас падпісання дамовы аб пашырэнні NATO.*

Тым не менш, далёка не ўсе станоўча ацэньваюць пашырэнне *NATO*. Сярод найбольш пакрыўджаных — Расія, чый міністр замежных справаў Ігар Іваноў назваў уступленне Польшчы, Чэхіі і Венгрыі ў шэрагі альянса «крокам не ў тым накірунку». Пазіцыя Расіі цалкам зразумелая — ёй вельмі не хочацца развітвацца з роляй «супердзяржавы» і непрыемна губляць зоны свайго ўплыву, губляючы тры багатыя краіны і застаўшыся толькі з адной Беларуссю — і тое з непажаданай нагрузкай у асобе Аляксандра Лукашэнкі.

Дарэчы, Аляксандр Рыгоравіч таксама пакрыўджаны на *NATO*. Выступаючы ў Кіеве, ён заявіў, што пашырэнне *NATO* нібыта супярэчыць раней дасягнутым дамоўленасцям з краінамі Захаду і ЗША. Прэзідэнт Лукашэнка паабяцаў разгледзець у бліжэйшы час на Савеце бяспекі пытанне аб узмацненні беларускай арміі.

Прэзідэнт Леанід Кучма заявіў, што Украіна не збіраецца ўступаць у *NATO*, і нагадаў, што ніводная краіна не можа і не мае права дыктаваць сваю волю іншым краінам.

Прадстаўнікі *NATO* кажуць, што далучэнне да альянса трох новых краінаў — гэта толькі пачатак. Сваёй чаргі на ўступленне ўжо чакаюць Славенія, Румынія, Балгарыя, Славакія, Літва, Эстонія і Латвія.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Пікет каля Міцкевіча

**У мінулую пятніцу перад будынкам Саюза палякаў у Гродне адбыўся пікет у абарону польскай мовы ў школе.**

Некалькі дзесяткаў пікетоўшчыкаў трымалі плакаты на польскай і беларускай мовах, стоячы каля бюста А.Міцкевіча. На балконе будынка СПБ вісеў транспарант: «Прэзідэнт Лукашэнка, выканайце дадзеныя вамі абяцанні». Маецца на ўвазе пабудова ў Гродне школы з польскай мовай навучання, якую, дарэчы, спачатку абяцаў пабудаваць яшчэ В.Кебіч. Па словах старшыні СПБ Т.Гавіна, улады пагражаюць зачыніць нават адзіную польскамоўную школу, якая была пабудаваная ў Гродне на грошы польскай дзяржавы.

**С.А.**

# Пратэстанты растуць хутчэй

**Як паведамілі ў дзяржкамітэце па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў, у мінулым годзе на Беларусі зарэгістравана 105 пратэстанцкіх, 50 праваслаўных і 7 рыма-каталіцкіх суполак.**

Па агульнай колькасці прыходаў застаецца ў лідэрах Руская праваслаўная царква (1.081), а яе даганяюць пратэстанцкія (838). Прычым гэтыя афіцыйныя дадзеныя не ўлічваюць значную частку пратэстанцкіх суполак, якія адмаўляюцца ад рэгістрацыі ва ўладных структурах. Рыма-каталіцкая царква, якая лічыцца другой па ўплыве на Беларусі, налічвае 399 парафіяў.

**А.Д.**

# «Наша Ніва»

**Тэма новага нумару «Нашай Нівы» — «Мода на экстрэмізм». Друкуюцца артыкулы пра экстрэмісцкую і нацысцкую контркультуру ў Беларусі і Еўропе, пра перспектывы «новай правай» ідэалогіі і месца нянавісці ў сучасным жыцці, а таксама гутарка Славаміра Адамовіча з простым хлопцам з РНЕ. У нумары таксама інтэрв'ю з В.Ганчаром, які распавядае, што ён разумее як беларускую ідэю, і з перакладчыкам «Новай зямлі» на польскую мову Чэславам Сэнюхам, новыя вершы Барадуліна, а таксама барадулінскія пераклады паэзіі Мандэльштама.**

**Пачынаецца нумар зваротам Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы з нагоды Дня Волі і перадсвяточным апытаннем «Як Вы будзеце адзначаць Дзень Волі»: 10 з 15 апытаных, ад Станіслава Багданкевіча да аўтара «Народнага альбому» Міхала Анемпадыстава, збіраюцца пачаць з удзелу ў шэсці.**

АРМИЯ БЕЗ МИФОВ

# В армии не помнят тех, кого убивают свои

Военнослужащий срочной службы Александр Альферович был убит более четырех лет назад. Об этой трагедии не раз писали многие республиканские газеты. Но странные обстоятельства гибели и расследования по делу о гибели Альферовича заставляют вновь и вновь возвращаться к этим событиям.

Мария Григорьевна, мать Саши, ищет правду уже пятый год. Эта рано постаревшая от горя женщина просит прощения у сына за то, что «тревожит его душу». «Материнское сердце всегда хочет правды», — говорит она, стоя перед фотографией сына, застреленного за два дня до увольнения в запас.

Сослуживец Саши В.Чернышов «шутя» выстрелил в ее сына 6 мая 1994 г. Пуля вошла в правое плечо, ушла в гортань и вышла, задев часть легкого и сердца. Такое ранение дает возможность предположить, что автомат, по всей вероятности, был снаряжен пулями со смещенным центром тяжести калибром 5,45 мм. Этот варварский вид боеприпасов должен был быть изъят из арсеналов и уничтожен еще в 1974 г. согласно положению Генеральной Ассамблеи ООН. Повторно такие пули были запрещены спустя 15 лет, уже после афганской войны. Уместно вспомнить, что даже сто лет назад, в 1899 году, царская Россия подписала Декларацию о неупотреблении легко разворачивающихся и сплющивающихся пуль. Такие пули при попадании в тело способны не только разворачиваться, но и распадаться на осколки, двигающиеся в разных направлениях, нанося обширные повреждения, которые, как правило, ведут к смерти.

В белорусской армии случаи неосторожного обращения с оружием нередки. Но к гибели они приводят нечасто. При условии, что оружие заряжено обычными патронами. Но в лидской воинской части № 197646, где служил Саша, можно предположить, оказались пули, несущие неминуемую смерть.

В связи с такой возможностью речь может идти о чести не только армейского, но и президентского мундира, поскольку А.Лукашенко согласно Конституции является Главнокомандующим ВС РБ. Смерть молодого солдата в мирное время бросает черную тень на армию и ее высший состав. Поэтому расследование убийства Саши Альферовича шло по кем-то написанному сценарию с пометкой «закрыть и забыть».



Во-первых, следствие закрыло глаза на откровенные нарушения уставов, царящие в лидской воинской части. Солдаты там самовольно покидают посты, разводящие спокойно наблюдают «шалости» солдат с оружием, которые приводят к гибели военнослужащих (как было с Сашей Альферовичем). Кроме того, уже мертвый Саша, похоже, был ограблен на крупную сумму денег, присланную матерью к «дембелю». Не учли следователи и того, что спустя месяц при весьма схожих обстоятельствах в этой же части погиб еще один военнослужащий срочной службы.

Во-вторых, не были опрошены ни оперативные работники, прибывшие на место преступления, ни медработник, производивший осмотр тела. В-третьих, не устанавливалось, куда была выпущена пуля: в грудь или в спину. Это решило бы сомнения о непреднамеренности убийства. Не была проведена экспертиза одежды Альферовича. Мать не допустили к телу сына. Видимо поэтому категорически отказывают ей в проведении эксгумации.

Суд над виновником смерти В.Чернышовым прошел 6 июля 1994 г. При полном отсутствии свидетелей (а их было 12 человек), со следователем в роли прокурора. Между тем, закон «О прокуратуре РБ» запрещает следователю участвовать в суде в качестве государственного обвинителя. Виктору Чернышову присудили 5 лет ИТК общего режима за самовольное оставление поста и неосторожное обращение с оружием. И по сведениям матери С.Альферовича, он уже находится на свободе, не отсидев свой срок.

Столь откровенной насмешки Мария Альферович стерпеть не смогла. В течение четырех лет пожилая женщина, инвалид I группы, обивает пороги высших инстанций. Тысячи листов исписала мать, у которой отобрали сына. Но ни Военная прокуратура, ни Военный суд, ни министерство обороны, ни Совет безопасности не допустили дело на пересмотр. Два года назад президент республики, привычно падкий на обещания, заявил: «Я, как Главнокомандующий Вооруженными силами Республики Беларусь, обещаю, что дело будет расследовано». Но спустя время начальник отдела по надзору за исполнением законов в войсках Довбыш, отказываясь принимать от М.Альферович просьбы о повторном расследовании, заявил ей, что без разницы какая пуля в Александра вошла — обычная или нет, одна или двадцать — все равно его уже не вернуть.

Смерть двадцатилетнего парня была оценена государством в пять миллионов рублей. На эту жалкую подачку Мария Георгиевна не смогла даже достойно похоронить сына. Вследствии командующий военно-воздушными силами МО РБ признал, что денежная компенсация была выплачена без учета инфляции и индексации. Моральный ущерб воинскими уставами вовсе не учитывается. «Закон не обязывает нас к активной помощи», — подытожил представитель части.

Желание не ворошить убийство рядового Александра Альферовича вполне понятно. Высшие чины решили спасти честь, похоронив собственную совесть. Слишком позорно клеймо. В белорусской армии в силу халатности погибают, как на жестокой войне, причем с подозрением, что от пуль, запрещенных во всем мире. А жизнь солдата считается настолько ничтожной, что ее очень просто забыть, тайну спрятать, имя вычеркнуть во имя сохранения легенды о великой и непобедимой армии, заботливых офицерах, умных генералах и превращении молодого человека в настоящего мужчину за время службы. В том случае, конечно, если ему повезет не превратиться в труп, за который выплатят 5 миллионов рублей компенсации.

**Наталья РАДИНА**

ДОЛГИ ПОТРЕБИТЕЛЮ

# Белорусы - новые спартанцы

Когда после войны союзники определяли будущее Германии, было решено, что она должна иметь ровно столько промышленных предприятий, сколько нужно для обеспечения ее гражданам среднеевропейского уровня потребления.

Германия того времени, в отличие от современной Беларуси, лежала в развалинах, пребывала в полной власти оккупационных режимов, но уже через несколько лет нужный уровень потребления был достигнут и превзойден. Еще одно отличие заключается в том, что при существенном промышленном росте немцы с каждым годом зарабатывали все больше и практически не сталкивались с проблемой несвоевременно выплаченных зарплат. Про наш же рост можно сказать совершенно определенно только одно: прямым его следствием является падение уровня потребления. Первыми об этом узнают те люди, которым выплата заработной платы задерживается.

Колхозники, например, которые, складывается впечатление, вообще исключены из сферы товарно-денежных отношений. Ведь мало того, что их среднемесячная заработная плата вполовину меньше средней по стране, на них приходится 843 миллиарда из 1,7 триллиона задолженности по зарплате, образовавшейся на 27 февраля текущего года. И если последняя цифра «весит» 7 процентов январского фонда зарплаты по народному хозяйству в целом, то первая — 53 процента январского фонда оплаты труда в колхозах. Причем более 200 миллиардов в сумме долга колхозникам — это зарплата, начисленная, но не выплаченная за прошлый год, может быть даже за уборочную страду.

Конечно, потребности нашего сельского люда, мягко говоря, спартанские. Но и для того, чтобы покупать крупу, сахар, спички и мыло, какие-никакие деньги нужны. К тому же ведение домашнего хозяйства, при всей его натуральности, тоже требует денег. Ведь такая уж это инфраструктура: вбил последний гвоздь в последнюю доску нового забора, а прибитая первой уже требует замены.

И вообще, разве дело сводится только к выживанию? И в прежние времена можно было выжить, если не высовываться. И чем, если у колхозников продукцию покупают по «очень смешным ценам», новые времена отличаются от старых, когда ее просто отнимали? Тем, что не отнимают последнее?

Это как сказать. Если судить по внешним признакам, то война продолжается. Окруженные котеджами, а порой и замками, разваливающиеся деревни все больше напоминают оккупированные территории, населенные странными людьми, о которых можно сказать, что они спиваются и вымирают. Причем, если смертность среди людей преклонного возраста высока, то хотя бы естественна. Молодые же уходят из жизни против естества: добровольно, потеряв к ней всякий интерес, или по причине общей социальной неустроенности. Все это можно списать на человеческие пороки, но уж больно порочна та среда, в которой эти люди вынуждены жить.

И последнее. Практически все белорусские деятели гордятся самым, что ни есть, народным происхождением. Но, получив власть и усвоив все формальные правила политических игрищ, употребить эту власть на пользу народа не захотели или не сумели. И можно с уверенностью сказать: не сумеют и не захотят.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

КУРАПАТЫ – НАРОДНАЯ ПАМЯЦЬ

## Другі крыж - каталіцкі

Сярод ахвяраў камуністычнага рэжыму на Беларусі, расстраляных і пахаваных у Курапатах, значную частку складаюць палякі. Таму мы лічым сваім абавязкам прыняць удзел у ўвекавечанні памяці ахвяр у Курапатах і просім уключыць Саюз палякаў на Беларусі ў склад Грамадскага камітэта па ўзвядзенні ў Курапатах помніка «Пакутнікам Беларусі».

Просім таксама дазволіць узвядзенне каля крыжа св.Еўфрасінні крыжа каталіцкага за грошы, сабраныя Саюзам палякаў.

**Тадэуш ГАВІН,**
*старшыня Саюза*

## Не дзяліць ахвяры па канфесіях

«Курапаты» — гэта боль і майго народа, які верай і праўдай 600 гадоў служыў Беларусі. Савецкая ўлада ў БССР зрабіла ўсё для таго, каб узарваць традыцыйны жыццёвы ўклад татарскага насельніцтва Беларусі. І так нешматлікі татарскі народ панёс незлічоныя страты. У выніку «праведзенай работы» было ліквідавана працавітае і прадпрымальнае татарскае сялянства, практычна знішчана ўся інтэлігенцыя, былі зачыненыя і зруйнаваныя амаль усе мячэці (з 19, якія былі да вайны, засталася толькі адна — у г.п.Іўе Гродзенскай вобласці). Без перабольшання скажу, што таталітарнае праўленне ў БССР прывяло татарскую меншасць на Беларусі да мяжы знікнення.

Што датычыць Курапатаў, то тут расстраляны наш татарскі вучоны, імам г.Варшавы Алі Варановіч, мае землякі з г.п.Смілавічы імам Асан Мамтаршыцкі, яго намеснікі Адам Хасяневіч і Мустафа Хасяневіч і шмат іншых, каго мы ведаем альбо яшчэ не ведаем. Мы маем няпоўны спіс рэпрэсаваных татар. Лічу, што для ўсіх пакутнікаў павінен стаяць агульны помнік, які б адлюстраваў трагедыю народаў Беларусі. А як гэта зрабіць — справа прафесіяналаў. Галоўнае, трэба гэта рабіць хутчэй, пакуль яшчэ жывыя сведкі тых жудасных падзеяў. Магчыма знойдуцца багатыя спонсары. Толькі мы, простыя людзі Беларусі, не можам быць пасіўнымі, павінны збіраць сродкі на будаўніцтва. Нашы нявінна загубленыя бацькі і дзеды, іх душы адчуюць палёгку. Нашы нашчадкі, перш за ўсё дзяці, унукі і праўнукі парадуюцца, што іх бацькі, дзеды і прадзеды зрабілі вялікую і святую справу. Для іх гэта будзе добры ўрок. Трэба спяшацца... Калі сёння гэта не будзе зроблена, заўтра можа стацца, ужо нікому не будзе патрэбы да гэтай справы. Час ідзе, ужо прайшло больш за 10 гадоў, як былі адкрыты Курапаты свету.

Мір усім і міласць Усявышняга!

**Ібрагім КАНАПАЦКІ,**
*беларускае згуртаванне татар-мусульман «Аль-Кітаб»*

## Белорусская Голгофа

Меня очень удивил проект (по сообщениям прессы, уже осуществляется) поставить в Курапатах копию произведения декоративно-прикладного искусства 12-го века (креста Ефросинии Полоцкой). Вероятно, следовало вначале ответить самим себе на главный вопрос: кого мы чтим в Куропатах — жертв сталинского террора или свои сегодняшние представления о роли религий в жизни? Устанавливая крест, мы, возможно, доставим большое удовлетворение служителям православного культа: православный крест могут освящать только православные священники. Но увидеть в нем знак скорби, памяти о замученных и расстрелянных никто не сможет. С крестом Ефросинии Полоцкой не связываются страдания. Христос был распят не на таком кресте. Люди увидят увеличенный во много раз напрестольный крест, изображение которого приводится во всех изданиях по белорусскому искусству. Почему вдруг он копируется для мест массовых казней, которые совершили энкэвэдисты, — загадка. Неужели творческая мысль белорусских скульпторов не может выйти за рамки церковной символики и породить что-нибудь оригинальное и современное по форме? Ведь есть образцы высокоталантливых памятников в память жертв массового террора и геноцида, например, памятник в Майданеке. Но если нельзя по каким-либо причинам обойтись без религиозной символики, то почему не поставить в Куропатах скульптуру святой Ефросинии или, что, на мой взгляд, будет вернее, скульптуру скорбящей Богоматери, чьи страдания о замученном сыне более соответствуют Куропатам — этой белорусской Голгофе.



**И. ВОЙТЫЛОВИЧ,**
*ветеран труда*

# Белорусские кадеты нужны русским казакам

В газете «Республика» (за 30 января 1999 г.) была опубликована статья под названием «Нам нужны кадеты». Ее автор — Виктор Терещенко, охарактеризован редакцией как директор Международного института менеджмента (МИМ—Беларусь), депутат Верховного Совета РБ 13-го созыва, заместитель верховного атамана белорусского казачества по международным связям. Именно последнее определение вызвало у меня интерес к этому материалу.

Автор бегло знакомит читателя с историей кадетских училищ в Беларуси (Шкловского и Полоцкого), со ссылкой на генерал-майора авиации Анатолия Сульянова рассказывает о спецшколах ВВС (для подростков), суворовских училищах и логично переходит к нашему времени, видя один из путей полноценного воспитания молодежи в кадетских школах (корпусах). *«Кстати, по этому пути уже пошла Россия,* — пишет автор. — *Что мешает нам последовать этому примеру?» «Финансирование, как и функционирование кадетских школ (школ-интернатов),* — продолжает В. Терещенко, — *должно быть государственным и находиться в ведении министерства образования. Но могут быть и платные корпуса. Важно, чтобы при их комплектовании наряду с обыкновенными мальчиками туда приходили и дети из трудных семей, но не более половины от общего числа. Должно быть предусмотрено и приоритетное зачисление в кадеты».*

Далее заместитель верховного атамана коротко знакомит со своими организационно-методическими предложениями: *«Наполняемость в кадетских классах должна быть оптимальной — не более 20 человек. В летние каникулы часть времени кадеты будут находиться в лагерях на сборах. Старшие классы — на стажировке в выбранном роде войск; подростки, избравшие карьеру в гражданских ведомствах, — в госпиталях, в интернатах для престарелых и детских домах».*

Поскольку известно, что идеи быстро гаснут без конкретизации сроков исполнения, то автор предусматривает близкую перспективу реализации проекта. *«Полагаю, что после подготовки необходимых документов, включая и Положение о кадетской школе (кадетской школе-интернате), уже в 1999/2000 учебном году* (то есть в текущем. — **К.Т.**) *можно открыть первое кадетское учебное заведение в Минске. Затем и в областных городах».*

Ну, и кто же в наше время острейшей нехватки бюджетных и личных средств, разогнанной инфляции и ускоренной интеграции с Россией готов позаботиться о создании белорусских кадетских корпусов? Оказалось, что: *«Учредителями первой кадетской школы или кадетской школы-интерната готовы выступить белорусское казачество и Международный институт менеджмента»* (директором которого является автор. – **К.Т.**). *«Хочу поддержать верховного атамана белорусского казачества Николая Дмитриевича Улаховича, малый совет атаманов,* — сообщает В. Терещенко, — *в возрождении кадетских школ как общеобразовательных учреждений. Уверен, что вопрос культурного, физического и нравственного развития учащихся, адаптации их к жизни в обществе, создание основы для подготовки несовершеннолетних граждан к служению Отечеству на гражданском и военном поприще очень актуален».*

Все эти предложения заместителя верховного атамана по международным связям оставались бы в рамках обычного обсуждения надобности или ненадобности Беларуси сети военизированных школ, если не вспоминать, что так называемого **«белорусского казачества» исторически никогда не существовало.** В дореволюционной России казаки были сословием, имели всем известные области расселения, несли службу в иррегулярных войсках по вызову на своих конях. В конце XIX – начале XX века с одобрения императора Николая II была установлена та форма одежды для казаков, в которой они выступают сегодня как в национальных костюмах. Кроме кубанских и терских казаков, которые носили бешметы и черкески, остальные казачьи войска имели одинаковую форму, но с разным цветом лампасов, околышей и погонов (для донских казаков — алый, для уральских — малиновый, для оренбургских — голубой, для амурских — желтый).



На Беларуси ни казаков как сословия, ни куреней, ни станиц, ни иррегулярных казачьих подразделений с определенным цветом лампасов и погонов не было и не могло быть. Несколько случаев создания временных казачьих полков зафиксированы во время войн 1648—1661 годов на тех землях Беларуси (Гомельщина и Могилевщина), куда приходили запорожские загоны. Абсолютно уверен в том, что и Виктору Терещенко, и малому совету атаманов это хорошо известно. Если же вспоминать деяния русских казаков на Беларуси в XVIII и XIX веках, то составится мрачная картина их участья в подавлении восстаний, приведения к покорности крестьян, порки нагайками униатов, разгона рабочих митингов и т. д. Можно возразить, что это было давно, к сегодняшним живым казакам не должно прилагаться. Верно, и поэтому на Беларуси могут быть землячества донцов, кубанцев, забайкальских или амурских казаков. Люди разными судьбами оказались тут и, помня свою казачью родину, вправе объединяться в землячеческие союзы, чтобы не забыть о том, что они мигранты из тех областей России, которые раньше назывались по казачьим войскам.

Поэтому в реальности учредителями первого кадетского корпуса планируют стать русские казачьи объединения, которые назвали себя «белорусским казачеством» в силу той традиции, по которой назывались «забайкальскими», «терскими», «черноморскими» и т. д. То есть по освоенным или полученным для поселения землям. Однако вроде бы никто не предоставлял казакам для освоения Беларусь, чтобы они получили право закрепить за собой территориальное определение «белорусские», наподобие того, как запорожские казаки после переселения на Кубань стали «кубанскими».

Русское (российское) содержание казачества, его традиции и психология с неизбежностью поднимают вопрос о том понимании «Отечества», которое будет преподноситься учредителями белорусским кадетам. На драматическом фоне участия русских казаков в войне с Молдовой за Приднестровье, однозначно великодержавной идеологии, которая звучит на казачьих кругах донцов и кубанцев, воспитание «патриотизма», определение границ «Отечества» может происходить в стереотипах чуждого и чужого Беларуси мышления, как это было некогда в Полоцком кадетском корпусе. *«Среди кадетов,* — пишет Виктор Терещенко, — *утверждались православная вера и вера в царя и Отечество».* (Все три компоненты характеризовали сущность и пространство Российской империи).

С учетом курса России на создание так называемого Союза Славянских государств и поглощение Беларуси всякие идейные разработки о воспитании белорусских подростков в кадетских корпусах под учредительским оком русских казачьих землячеств означают, на мой взгляд, идею воспитания белорусских подростков в российско-имперском духе. Трудно удержаться от финансовых размышлений. Для содержания корпуса требуются большие деньги, чтобы оплачивать на каждого кадета четыре комплекта обмундирования, котловое довольствие, лагерные сборы, офицерский и учительский состав, автопарк, учебники и учебные пособия, сапожный крем и щетки, корпусный духовой оркестр, спортинвентарь, тир, утюги, иголки, нитки, медпункт и т. д. и т. п. Неужели «белорусское казачество» располагает такими огромными средствами? Или же учредители предоставят в Уставной фонд свои идеи, а финансовое обеспечение примут на себя белорусские министерства образования и обороны? Едва ли Беларусь, уже имея суворовское училище, в котором готовят подростков «для служения Отечеству на гражданском и военном поприще», нуждается еще в шести аналогичных учебных заведениях, вновь за счет народа.

Вполне возможно, что идеи и предложения Виктора Терещенко и других атаманов «белорусского казачества», как предполагает автор статьи, «найдут поддержку у коллег-депутатов парламента Республики Беларусь», поскольку находят среди них поддержку идеи политического уничтожения белорусского государства, его независимости, его будущего, главного носителя его культуры — белорусского языка и т. п. Кадетские корпуса казачьей посадки помогут реализовать превращение Беларуси в земли инородцев, что уже было испытано нашим народом до 1918 года.

Как реликт сословной эпохи казаки склонны к консерватизму, но странным образом их консерватизм направлен не на времена казачьей вольности в XV—XVIII столетиях, а на время полной подчиненности казачества государству Российскому и выполнения его державных задач. Идейные воспоминания казаков — их внутреннее дело. Но идеи, с которыми казачьи русские землячества обращают свой взор на юных граждан Республики Беларусь, вовсе не безобидны для ее самостоятельности. Не рано ли составлять программы выучки кадетов служению «Отечеству»?

**Кастусь ТАРАСОВ**

# Даты і лёсы

## 16 сакавіка

**1792.** На маскарадзе ў Стакгольме быў смяротна паранены і неўзабаве памёр кароль Швецыі Густаў III, які абмежаваў прывілеі шляхты. Джузепе Вердзі напісаў на гэты сюжэт оперу «Баль-маскарад».

**1890.** Нарадзіўся таленавіты акцёр і рэжысёр, кіраўнік Дзяржаўнага габрэйскага тэатра СССР Саламон Міхоэлс. У 1948 г. па загадзе Сталіна быў забіты ў Мінску агентамі дзяржбяспекі, якія інсцэнавалі аўтамабільны наезд.

**1942.** Немецкія ўлады легалізавалі дзейнасць Беларускага экзархата уніяцкай царквы, заснаванага ў падполлі яшчэ за Саветамі ў 1940 г. Аднак праз некалькі месяцаў Альберцінскі кляштар быў закрыты, а экзарх А.Неманцэвіч арыштаваны і закатаваны гестапа.

**1952.** На востраў Рэюньён у Індыйскім акіяне выпаў рэкордны дождж: 1.870 мм вады за суткі (18.652 т на гектар).

**1968.** Атрад амерыканскіх войскаў пад камандаваннем лейтэнанта Колі ўварваўся ў в'етнамскую вёску Сангмі і знішчыў каля 500 жыхароў. У 1971 г. Колі быў асуджаны «за парушэнне правілаў вядзення вайны» да пажыццёвага зняволення, але праз нядоўгі час быў вызвалены па распараджэнні прэзідэнта ЗША.

**1969.** У Венесуэле самалёт ДС-9 зачапіўся за лінію электраперадачаў і вогненным шарам упаў на г.Маракаіба. Загінулі 88 чалавек на борце і 71 у жылых дамах на зямлі.

**1995.** У штаце Місісіпі была ратыфікаваная 13-ая папраўка да Канстытуцыі ЗША — было афіцыйна забароненае рабства.

## 17 сакавіка

***Нацыянальнае свята ірландцаў — дзень св.Патрыка.***

**1834.** Нарадзіўся нямецкі інжынер Готліб Даймлер, які ўдасканаліў рухавік унутранага згарання і стварыў адзін з першых аўтамабіляў (1885). Заснаваная ім кампанія з цягам часу ператварылася ў гігант *Daimler-Benz*.

**1959.** Кітайскія ўлады расстралялі дэманстрацыю пратэсту ў сталіцы Тыбета Лхасе. У адказ пачалося паўстанне супраць акупантаў, якое ахапіла ўвесь Тыбет. Загінулі 65 тыс.чалавек.

**1969.** Прэм'ер-міністрам Ізраіля стала Голда Меір (у дзяцінстве жыла ў Беларусі).

**1969.** Курорт Сент-Пітэрсберг у штаце Флорыда ўсталяваў сусветны рэкорд: тут 768 дзён запар не было ніводнага пахмурнага дня.

## 18 сакавіка

**1889.** Нарадзіўся найбольш вядомы з «апрычнікаў» савецкай эпохі Лаўрэнцій Берыя, які кіраваў органамі дзяржбяспекі ў апошнія 15 гадоў уладарання Іосіфа Сталіна.

**1921.** Расія і Украіна падпісалі з Польшчай Рыжскі мірны дагавор. Падчас папярэдніх перамоваў польская дэлегацыя прапаноўвала вывесці ўсе войскі з тэрыторыі Беларусі (улучна са Смаленшчынай) і правесці там плебісцыт для самавызначэння насельніцтва, аднак савецкая дэлегацыя адмовілася ад гэтага плана на карысць падзелу спрэчных земляў.

**1959.** Нарадзіўся культавы французскі рэжысёр Люк Бесон, якога называюць «еўрапейскім Спілбергам», — аўтар «Нікіты», «Леона» і «Пятага элемента» (найбольш дарагога еўрапейскага фільма).

**1967.** Брытанскія ВПС знішчылі бомбамі з напалмам танкер *Torrey Canyon*, што сеў на рыфы ля мыса Край Зямлі, каб прадухіліць забруджванне англійскага ўзбярэжжа нафтай.

**1989.** У г.Кахоўка Херсонскай вобласці Васіль Расошык прайшоў каля 40 км па стадыёне вакол футбольнага поля (101 кола), жанглюючы мячом. За ўвесь гэты час — 10 з паловай гадзінаў — мяч ніводнага разу не крануўся зямлі.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3)
Заказ 520 Нумар падпісаны ў друк 15/03/99 (15:00) Наклад — 17.430 Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.